Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 3. Вільня, Нядзеля, 25-га травеня 1924 г. Год І.

## Старая сыстэма.

Дзеля рэклямы перад Эўропай пускаюцца ў прэсу „неафіцыяльныя" весткі аб урадовых праектах „аздараўленьня" адносінаў на „Крэсах". Ведама, *на першым месцы*, як чытаем у кракаўскай кансэрватыўнай газэце „Czas", стаіць справа *павялічэньня лічбы паліцыі* на „Крэсах" — так, *каб на кожны кілямэтр выпадаў адзін паліцэйскі*. І, не чакаючы канца нарад камісіі да крэсавых спраў, урад ужо даў *прыказ генаралу Рыдзу-Сьмігламу, каб даваў адміністрацыі ў помач войска ў трох беларускіх ваяводзтвах: Беластоцкім, Навагрудзкім і ў Віленшчыне*.

Узмоцнішы і без таго цяжкую руку нашае адміністрацыі, урад маніцца даць беларускаму насяленьню Заходняе Беларусі *права дамагацца для сябе школаў у роднай мове*, адпаведна да *устаноўленага ўрадам* працэнту людзей, ужываючых беларускае мовы. Ну, тут дык нічога новага няма: гэтае самае „права" дае нам канстытуцыя, але ніводзін школьны інспэктар дагэтуль нашых дамаганьняў не здаваляў, і можна сьмела сказаць, што прывучаная ўжо да такога трактаваньня нашага права школьная адміністрацыя і далей будзе аднасіцца да яго так, як адносіцца цяпер.

Урэшце, праект ураду абыймае справы праваслаўнае царквы. Мае быць устаноўлена, каб адна праваслаўная парахвія мела ад 3 да 5 тысяч душ—з тым, каб хадзіць у царкву было ня больш, як за 7 — 10 кілямэтраў. Устаноўлены і плян рэарганізацыі праваслаўнае духоўнае сэмінарыі ў Вільні: яна будзе складацца з васьмёх клясаў гімназіі і дзьвюх клясаў тэалёгічных. Але, як мы ўжо паведамлялі ў папярэднім нумары нашае газэты, навука ў сэмінарыі будзе весьціся *па польску*, ня гледзячы на тое, што ў ёй будуць вучыцца *беларусы*, і што яна мае ўзгадываць сьвяшчэнікаў дзеля працы *сярод беларусаў*.

Вось, і ўсе „дабрадзействы", якіх можна спадзявацца ад польскага ўраду. Ведама, сам п. Грабскі дужа добра разумее, што *такія „рэформы" абсалютна ня могуць здаволіць беларусаў*. І вось, адначасна з паўтараньнем дзеля Эўропы ўтрацішых ужо даўно ўсякую цану пекных слоў польскае канстытуцыі (пекных—на паперы, але ня ў жыцьці!), у урадовых кругох абдумываюцца пляны, як-бы ўсадзіць беларусам нож у сьпіну і разьбіць нашыя культурныя сілы. Работай у гэтым кірунку, як нас паведамляюць, кіруюць сфэры, блізкія да міністэрства ўнутраных спраў. Тутака нарадзілася ідэя ўжыць у адносінах да беларусаў старую палітычную сыстэму: „divide et impera" (дзялі і пануй). Ведаючы, што даволі многа беларускае інтэлігенцыі вырасла у расейскай культуры і толькі цяпер варочаецца да свайго народу, аўтары праекту надумалі распачаць сярод ей *агітацыю ў духу „русской народности"*, і дзеля гэтага йдзе падгатоўка адумыснае *расейскае партыі*, якой маюць быць асыгнаваны вялікія грошы на „работу" і на выдаваньне расейскае газэты ў Берасьці ці ў Вільні. Да гэтае партыі маюць быць прыцягнены ў першы чарод праваслаўныя сьвяшчэнікі-расейцы, якім за гэта суляць усе грамадзянскія правы—„абыватэльства" і т. п. Партыя мае разьвіць энэргічную дзейнасьць у кірунку адцягваньня ад беларускага руху інтэлігэнтаў, па свайму ўзгадаваньню блізкіх да расейскае культуры.

Гэтыя весткі тлумачаць нам некаторыя паступкі віленскае адміністрацыі, на першы пагляд зусім незразумелыя. Здаецца, якое дзела ўладзе да таго, што Віленская Беларуская Гімназія ў лічбе канцэртаў, ладжаных у сваей салі на карысьць незаможных вучняў, манілася адзін пасьвяціць спэцыяльна *расейскай музыцы*? А вось-жа аказалася, што нашым адміністратарам гэты акт пашаны да культуры братняга славянскага народу прыйшоўся не да спадобы, і *п. Вімбор забараніў уладзіць гэты канцэрт*. У сувязі-ж з плянам, які маніцца пасварыць беларусаў расейскае культуры з агульна-нацыянальным беларускім рухам, гэты крок пана камісара ўраду атрымлівае поўнае высьвятленьне...

Аднак, мы думаем, што мяркаваньні „высокіх сфэраў" аслабіць беларускія сілы дарогай тварэньня „расейскае партыі" скончацца так, як скончылася ў часе выбараў у сойм і сэнат бэльвэдэрская арганізацыя сьпіску № 22. І там прыцягіваліся праваслаўныя сьвяшчэнікі—былі нават два архірэі! І тады п. Пілсудскі ў Навагрудку карміў абедам валасных старшын, а ягоныя падручныя стараліся настроіць іх проці сялянства, якое йшло масай за клічам Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Але і там скончылася ўсё вялікай кампраміітацыяй п. Пілсудскага і ягоных кандыдатаў у паслы: ніводзін з іх у сойм не папаў! Да таго-ж, трэба думаць, сярод тутэйшых нячысленных *ідэйных* прадстаўнікоў расейскае нацыянальнасьці ня шмат знойдзецца такіх наіўных, каторыя верылі-бы, што, выкарыстаўшы расейскі элемэнт дзеля барацьбы з беларусамі, „паны палажэньня" будуць і далей спагадаць і гадаваць у сябе расейцаў, калі тыя ня станунцца „добрымі палякамі". „Расейская партыя" можа разьлічаць толькі на людзей наёмных, на тыя падонкі расейскага грамадзянства, што за грошы гатовы служыць кожнаму, хто добра заплоціць; а такія людзі ня страшны!

Дый мінуліся ўжо даўно тыя часы, калі беларускі рух прадстаўляла адно маленькая жменя ідэалістаў-інтэлігентаў. Цяпер ужо не інтэлігенцыя, хоць і дайшоўшая значнае лічбы, але самая сялянская маса загаварыла аб сабе. *Цяпер беларускі рух—гэта рух масавы, гэта імкненьне нашага працоўнага народу вёсак і мест да волі і шчасьця*. І такога руху, такога імкненьня ўжо нікому „не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!"

## Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) Інтэрпэляцыя паслоў Беларускага Клюбу да п. Міністра Унутраных Спраў у справе *біцьця паліцыяй* арыштаваных сялян Яна і Зьмітра Дыдышко, сялян з в. Ліпск, Крывошынскае гміны, Баранавіцкага пав.

У першых днях месяца красавіка г. г. сяляне вёскі Ліпск (Крывошынскае гміны, Баранавіцкага пав.) і жыхары другіх акалічных вёсак зьявіліся ў кантору купца Цырынскага ў Крывошыне па належныя ім за працу грошы.

З прычыны таго, што кантора адмовілася выплаціць грошы, а служачыя пачалі паступаць абразьліва ў адносінах да крэдытораў, заінтарэсаваныя сяляне пачалі пратэставаць проці такіх адносінаў да іх дамаганьняў. Тады прыбыла сюды аружная паліцыя і пачала біць людзей. Разганяючы гэтак сялян, арыштавалі Яна і Зьмітра Дыдышко, завялі на „постэрунак", дзе ў поўначы іх страшэнна пабілі, і пасадзілі пад арышт.

Пасьля двохдзённага арышту іх пераслалі ў Баранавічы, дзе дзяржалі пад арыштам 3 дні; стуль павязьлі ў вастрог у Слонім. Цераз тры дні арыштаваных выпусьцілі з вастрогу.

Пазываючыся на сьведкаў, а іменна: Канстантына Малевіча, які гэтак сама быў пабіты, а такжа Мацьвея Мажэйку, Аляксандра Бурбіцкага, Марку Бацкалевіча і іншых з вёсак Ліпск, Залужжа і Заліпені, ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў Пана Міністра:

1) Ці вядома яму аб вышэйсказаных беззаконьнях паліцыі?

2) Ці зьбіраецца ён правясьці сьледзтва, каб пакараць паліцыю за біцьцё арыштаваных і неканстытуцыйнае пазбаўленьне свабоды грамадзян беларусаў?

Варшава, дня 20 мая 1924 г.

**Інтэрпэлянты.**

2) Інтэрпэляцыя паслоў з Беларускага Клюбу да П. Міністра Унутраных спраў у справе звальненьня з вастрогу Міхала Кісяля, жыхара вёскі Малыя Міцкевічы, Ланьскае гміны, Нясьвіскага павету.

Самавольнае гаспадараваньне старастаў на беларускіх землях даходзіць ня раз да абсурдаў. Вось, нясьвіжскі стараста пазбавіў свабоды і пасадзіў у вастрог на 1 год 70-гадовага беларуса, які, з увагі на гэткія старыя гады, ня мог ужо думаць аб укрываньні аружжа, а толькі аб спакойнай сьмерці... Аднак стараста, зусім ня лічучыся з духовым станам старога, садзіць яго бязьвіннага ў вастрог, выяўляючы гэтак нястачу здаровага розуму — нястачу адпаведнае культуры, якімі то рысамі павінен адзначацца кожны з вышэйшых урадоўцаў.

Ніжэй прыводзім зьмест просьбы, пададзенай у Сойм Міхалам Кісялём, з в. Малыя Міцкевічы, Ланьскае гміны, Нясьвіжскага павету:

„У 1923 годзе, верасьня 18 дня, каманда дзяржаўнае паліцыі нясьвіжскага павету прыехала ў месца майго жыцьця, шукаючы майго сына Яна, каторы выйшаў зпад маей бацькаўскай апекі, як дарослы, і дзе знаходзіцца цяпер, мне невядома. На гэтай аснове паліцыя зрабіла ў мяне обыск у гаспадарскіх будоўлях, а іменна: ў жылой хаце ўзарвалі падлогу, паразьбівалі печы і шмат рэчаў паглумілі, пасьля з пуні выкінулі ўсенькае збожжа, сена і т. д., зрабілі мне многа шкоды, робячы гэтак маё жыцьцё на пяцёх маргох крытычным. У маім садзе стаялі вульлі (калоды) ў працягу даўжэйшага часу ча адным месцы, і адзін з паліцыі сказаў, што гэтае знойдзецца пад стрэхай вульлёў, і запраўды знайшлі дзьве вінтоўкі расейскае сыстэмы, аб якіх ані я, ані ніхто з сям'і ня ведаў. Вінтоўкі былі зусім нягодныя, іржавыя. Вядома, што наша мяйсцовасьць была месцам вайны і надлягала рознай уладзе, дык адны перад другімі ўкрывалі аружжа. На гэтай аснове мяне арыштавалі, і нясьвіжскае староства прысудзіла мне год вастрогу. А я чалавек пажылы, ў канцы жыцьця, маючы 70 гадоў ад нараджэньня і засуджаны бязьлітасна бяз віны. Пададзеная ў Навагрудзкае Ваяводзтва скарга мая ня ўважана. Цяпер пакутую бязьвінна ў вастрозе ў Нясьвіжы больш за чатыры месяцы. Вось-жа маю гонар прасіць Уставадаўчы Сойм Польскай Рэчыпаспалітай, з увагі на маю нявіноўнасьць і старыя гады, звольніць мяне з вастрогу, каб я мог памерці ў роднай хаце свае́й".

Дзеля вышэйсказанага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў Пана Міністра: 1) ці вядома яму аб вышэйшым? 2) ці ён маніцца разсьледаваць справу і звольніць з вастрогу 70-гадовага старца?

Варшава, 20 мая 1924 г.

**Інтэрпэлянты.**

3) Інтэрпэляцыя пасла Ф. Ярэміча і тав. з Беларускага Клюбу да п. Міністра Спра-

